# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

18.10.12-24.10.12 г.


**САМЫ ДАРАГІ**




СЕАНС ПСІХАТЭРАПІІ

СТАР. 4–5

**$7-МІЛЬЯРДНЫ ЭКСПАРТ –**

ВЫДАТКІ Ў $10 МЛРД.?




СТАР. 6-7

# РУБЕЛЬ СЯДЗІЦЬ НА БОЧЦЫ З БЕНЗІНАМ

17 кастрычніка беларускі рубель патаннеў адразу амаль на 1,5% у адносінах да валютнага кошыку (долар, еўра, расійскі рубель).



*Аптымізму ўсё менш*

## ВОСЬ ТАКІЯ РЭКОРДЫ

Праз гэта быў усталяваны новы сумны рэкорд:паводле курса Нацыянальнага банка, еўра дасягнуў 11230 беларускіх рублёў.

Нацыянальная валюта пачала слабець напрыканцы жніўня. За апошнія два месяцы рубель патаннеў больш чым на 6%. На тле дэвальвацый 2011 года гэта выглядае дзіцячай забавай. Аднак пасля таго, як на працягу трох кварталаў рубель захаваў стабільнасць і нават крыху ўмацаваўся, змена тэндэнцыі насцярожвае.

Да таго ж трэба ўлічыць, што нават на цяперашнім узроўні курс трымаецца дзякуючы мыліцам Нацыянальнага банка. Установа, якую ачольвае Надзея Ермакова, рэгулярна прадае замежную валюту на біржы, каб рубель не абрынуўся надта моцна.

Прагнозы экспертаў несуцяшальныя, хаця і ў рознай ступені. Днямі ў праграме партала TUT.BY адбылася дыскусія паміж эканамістамі Сяргеем Чалым і Леанідам Злотнікавым. На думку першага, сітуацыя на фінансавым рынку адносна спакойная і падкантрольная Нацбанку. Аднак нават Чалы лічыць, што ўлады будуць паступова аслабляць рубель (у агляднай перспектыве да 9000 за 1 долар), каб зрабіць больш выгадным экспарт беларускіх тавараў.

> “За апошнія два месяцы рубель патаннеў больш чым на 6%. На тле дэвальвацый 2011 года гэта выглядае дзіцячай забавай. Аднак пасля таго, як на працягу трох кварталаў рубель захоўваў стабільнасць і нават крыху ўмацаваўся, змена тэндэнцыі насцярожвае”.

Што тычыцца Злотнікава, то гэты эканаміст настроены больш скептычна. Ён лічыць, што рэальны курс рубля да долара ўжо будучай вясной можа перасягнуць мяжу 12-13 тысяч за долар. Сваё меркаванне эксперт абгрунтоўвае, у прыватнасці, ростам грашовай масы ў 2012 годзе на 40%. Гэтыя грошы незабяспечаны адпаведным ростам аб’ёму вытворчасці і таму небяспечныя для фінансавай стабільнасці.

Дадамо, што нават Міністэрствафінансаў згоднае з тым, што ўтрымаць курс хаця б на сённяшнім узроўні не атрымаецца. У афіцыйным прагнозе на 2013 год пазначана, што долар у сярэднім будзе каштаваць 8950 рублёў.

## І ЖОРСТКІ ПАЛІЎНЫ КРЫЗІС

Насамрэч, канечне, курс моцна залежыць ад бягучага стану спраў у эканоміцы. І да канца 2012-га могуць яшчэ адбыцца падзеі, здольныя паўплываць на самаадчуванне рубля.

Так, агенцтва “Інтэрфакс” паведамляе са спасылкай на добра інфармаваную крыніцу, што “Беларусь стаіць на парозе жорсткага паліўнага крызісу”. Прычыны яго такія.

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## ПРЫМУШАЮЦЬ УБІРАЦЬ ЛЁН

За гектар паднятага льну абяцаюць 50 тысяч рублёў. А працаваць прымушаюць і па буднях, і па выходных, паведамляе Еўрарадыё

Настаўнікі ў прыватных гутарках абураюцца, але “на лён” едуць моўчкі, бо баяцца згубіць працу:

“Настаўнікі выставілі адзнакі за чвэрць без абмеркавання (няма калі!), адмянілі дадатковыя заняткі. Бо для настаўніка няма нічога больш важнага і святога, чым дапамога калгасу ва ўборцы льну”, - піша адзін з пакрыўджаных настаўнікаў і сваім блогу.

13-14 октября
Всем педагогическим работникам школы необходимо принять участие в сельскохозяйственных работах (уборка льна)
**Явка обязательна**
**Сбор 9.00. возле**
**Дома Советов**

Настаўнікам абяцалі заплаціць 50 тысяч рублёў за гектар паднятага льну. Акрамя настаўнікаў, на глыбоцкіх палетках працуюць і супрацоўнікі іншых прадпрыемстваў з Глыбокага

# НАКОЛЬКІ “НАДРЭЙФУЕ” БЕЛАРУСЬ У ЗАХОДНІМ КІРУНКУ?

Нягледзячы на ўсе чарговыя гучныя заявы Аляксандра Лукашэнкі пра “адзіны народ” падчас нядаўняй прэсавай канферэнцыі з расійскімі журналістамі, з боку беларускай улады апошнім часам ідуць выразныя сігналы ў заходнім кірунку. Наколькі яны знакавыя, разбіралася “Тут і цяпер”.




*На Захад улады зноў глядзяць з надзеяй*

**АЛЯКСАНДР КЛАСКОЎСКІ, АНАЛІТЫК:**
### “ТУТ ШМАТ ШТО ЗАЛЕЖЫЦЬ АД РАСІІ”.

— Мне здаецца, што казаць пра заходні дрэйф заўчасна. Некаторыя сігналы беларускіх улад Еўрасаюзу былі скіраваны на тое, каб прадухіліць, у прыватнасці, пашырэнне санкцый. Гэтага не адбылося на пасяджэнні ў Брусэлі 15 кастрыніка, таму сваёй лакальнай мэты Мінск дасягнуў. І рыторыка прэсавага сакратара МЗС Савіных была вялай, дзяжурнай, а гэта прыкмета таго, што Мінск сапраўды мае намер пад націскам Расіі, які ўзмацняецца, гуляць на заходнім вектары. Вызваленне двух палітвязняў, рыторыка Лукашэнкі пра мадэрнізацыю — жэсты якраз у гэтым ключы. Але пакуль толькі жэсты. Да глыбокага празаходняга трэнда Лукашэнка не гатоў, бо гэта разбурыць яго Сістэму. Сёння зусім іншыя чыннікі вызначаюць, будзе ці не будзе нейкі дрэйф у заходнім кірунку. І найперш гэта націск Расіі і эканамічныя абставіны, а не рытуальныя прамовы, якімі абменьваюцца Мінск і Брусель.

**УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ, ФІЛОСАФ:**
### “ДРЭЙФ” ПАВІНЕН ВЫЗНАЧАЦЬ НАРОД”.

— Калі меркаваць па той рыторыцы, што гучыць сёння з вуснаў і Савіных, чалавека досыць падрыхтаванага да дыпламатычнай работы, і Лукашэнкі, то ніякіх паляпшэнняў знешняй палітыкі на заходнім кірунку чакаць не даводзіцца. Шматвектарнасць сціснулася да аднаго ўсходняга вектара. Апроч таго, Лукашэнка сказаў цікавую фразу падчас прэс-канферэнцыі з прадстаўнікамі расійскіх сродкаў масавай інфармацыі: “канечне, няма ў нас сяброўскіх адносін з Захадам, але ж “наклоняют” нас менавіта з Усходу”. Вось гэтая, па сутнасці, дурацкая рыторыка і Савіных, і Лукашэнкі пацвярджае, што Захад цалкам добразычліва ставіцца да Беларусі і мае добрыя прапановы. Усё, што ён патрабуе, — гэта пачаць аслабляць націск на ўласны народ. Ён не патрабуе ад прэзідэнта ніякіх уступак, матэрыяльных кампенсацый, кантрыбуцый ці чагосьці яшчэ. Таму Савіных, хоць і абсалютна абстрактна, кажа правільныя рэчы. Трэба пачаць рухацца насустрач адно аднаму. І сёння Захад зрабіў шмат крокаў у кірунку Беларусі. А вось тая ў сваю чаргу амаль што не рухаецца ў адказ. Вось так гэта выглядае. Заходні “трэнд” Беларусі залежыць ад чатырох чыннікаў.

Першы, канечне, Захад.

Другі, зразумела, Усход, які зацікаўлены ў пагаршэнні беларускіх стасункаў з Захадам.

Трэцяя сіла, якая павінна тут разглядацца, — гэта, вядома ж, пазіцыя ўлад і самога Лукашэнкі.

Але ёсць яшчэ чацвёрты чыннік, які мы чамусьці заўсёды ігнаруем. Гэта воля беларускага народа. Пакуль мы не пачнём узважваць і абмяркоўваць, што мы (народ Беларусі) можам зрабіць, каб націснуць на ўлады, на рэжым, каб нейкім чынам ураўнаважыць вектары з Усходу і Захаду, то нічога не атрымаецца. Будзе нестабільная сітуацыя з трох бакоў. А трэба, каб яна была, стала чатырохбаковай, як ружа вятроў. І тады можна будзе разлічваць на баланс па ўсіх гэтых кірунках.

**АНДРЭЙ ФЁДАРАЎ, ПАЛІТОЛАГ:**
### “ЗАХАВАЕЦЦА СТАТУС-КВО”.

— Калі б ён быў, дык мо і замарозіўся б. А так... Расія падціскае, і недзе трэба шукаць дапамогу. Калі б еўрапейцы пайшлі на больш жорсткія меры, то і рэакцыя была б адпаведнай. А паколькі горш не стала, то статус-кво захаваецца. Нават будуць асцярожныя спробы пачаць нармалізацыю стасункаў з Захадам. У сваім разуменні, вядома.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА**

**Палітыка Еўрасаюза несумяшчальная з добрасуседскімі ўзаемаадносінамі. Аб гэтым заявіў карэспандэнту БелТА начальнік упраўлення інфармацыі прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных у сувязі з рашэннем Савета ЕС па Беларусі ад 15 кастрычніка 2012 года.**

**«Сённяшнія рашэнні Савета ЕС фактычна замарожваюць адносіны паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам на ўзроўні, які аб’ектыўна не можа задавальняць ніводны з бакоў, — адзначыў афіцыйны прадстаўнік МЗС Беларусі. — Беларускі бок не будзе паддавацца націску. Мы лічым, што такая палітыка ЕС несумяшчальная з добрасуседскімі ўзаемаадносінамі».**

**Прэс-сакратар МЗС падкрэсліў: «Пераадоленне існуючых рознагалоссяў магчыма толькі на аснове руху бакоў насустрач адзін да аднаго. Мы заклікаем Еўрасаюз адмовіцца ад санкцыйнага мыслення і ў сваю чаргу зрабіць захады па аднаўленні атмасферы ўзаемнага даверу».**

**Беларускі бок заяўляе аб сваёй прынцыповай зацікаўленасці ў канструктыўным і паважлівым дыялогу з ЕС і гатоў да сумеснай работы ў гэтым напрамку.**

# РУБЕЛЬ СЯДЗІЦЬ НА БОЧЦЫ З БЕНЗІНАМ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Вядома, што, дзякуючы пагадненням з Расіяй,Беларусь атрымлівае нафту па коштах значна ніжэйшых, чым сусветныя. Аднак тыя дамоўленасці даюць нашай краінене толькі прывілеі, але і абавязкі.Згодна з паліўным балансам, Беларусь павінна ў 2012 годзе паставіць на расійскі рынак 2,1 мільёна тон бензіну і 3,5 мільёна тон дызпаліва. Пакуль што гэты артыкул выкананы прыкладна на 2%.

Раней Масква не пераймалася з гэтай нагоды. Аднак, калі пачаўся рамонт шэрагу расійскіх нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў, на тамтэйшым рынку ўзнік дэфіцыт паліва. І цяпер Міністэрства энергетыкі РФ патрабуе выканання планаў па пастаўках беларускага бензіну і дызпаліва.

Для дасягнення гэтага неабходна, каб да канца года ўсё, што выробляецца на заводах у Мазыры і Наваполацку, пайшло на экспарт у Расію (і тое можа не хапіць). У гэтым выпадку, каб забяспечыць унутраны рынак Беларусі бензінам і дызпалівам, іх давядзецца… купляць на Захадзе. Гэта адмоўна паўплывае на знешнегандлёвае сальда і рыкашэтам ударыць па нацыянальнай валюце.

Выглядае, што рубель сядзіць на бочцы з бензінам. Не надта ўтульнае становішча: нафтапрадукты, з аднаго боку, дазваляюць падтрымліваць курс нацыянальнай валюты, а з іншага, здольныя выбухнуць у любы момант.

І гэта толькі адзін са шматлікіх чыннікаў рызыкі, якія існуюць для нашай эканомікі. Аднак улады не жадаюць рэфармаваць неэфектыўную мадэль, спрабуючы ўратаваць яе пры дапамозе розных хітрыкаў. Але ж такі падыход можа, у лепшым выпадку, толькі адтэрмінавацькрах, а не прадухіліць яго.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# НА ЧАРЗЕ —АБУТКОВЫ "ЛУЧ"?

## Практыка нацыяналізацыі ключавых актываў набывае ў Беларусі статус звычайнай з'явы.

Наступнымі ў чарзе на ператварэнне ў дзяржаўныя прадпрыемствы могут апынуцца тыя кампаніі, якія сталі прыватнымі ў выніку льготнай прыватызацыі ў 90-х гадах, а таксама тыя, што хаця б часткова ўваходзяць у сферу інтарэсаў дзяржавы.

### "НАРОДНЫЯ АКТЫВЫ"

Для таго, каб ператварыць больш-менш паспяховы прыватны бізнес у дзяржаўны, неабходна некалькі слоў прэзідэнта. Дзяржава можа адным махам змяніць менеджара кампаніі, а пасля падвесці гэтую змену пад заканадаўчыя межы. Гэта яскрава засведчыў досвед "Камунаркі" і "Спартака", якія за адзін дзень ператварыліся з адных з самых паспяховых прыватных прадпрыемстваў ("твараў" Беларусі)у "народныя" актывы. Раней адбылася нацыяналізацыя "Пінскдрэва", да гэтага — "Кераміна", яшчэ раней…

Манера, з якой была праведзена нацыяналізацыя, таксама выглядае вельмі трывожнай. Імем народа ў пачатку ХХ стагоддзя рабіліся надзвычай цяжкія для дзяржавы, народа і гісторыі справы. Цяпер voxpopuliхоча агучваць Лукашэнка.

Для нацыяналізацыі была выбрана фармальная прычына — памылкі падчас прыватызацыі прадпрыемства ў 90-х гадах. Насамрэч дзяржаву разлавала тое, як найбуйнейшы акцыянер "Камунаркі" і "Спартака" Марат Новікаў паспеў выкупіць мінарытарныя пакеты пасля адмены ў 2011 годзе мараторыя на набыццё акцыймінарытарыяў, што былі набыты ў тых самых 90-х. І проста таму, што дзяржаўныя органы не змаглі адэкватна адрэагаваць на дзеянні Новікава ў 2011-м, прыйшлося капаць гэтак глыбока.

Тое, што адбылося з "Камунаркай" і "Спартаком", сведчыць пра наступнае: механізм нацыяналізацыі можа быць пабудаваны на нерацыянальных высновах і мець на ўвазе суб'ектыўныя мэты асобных кіраўнікоў ва ўладнай вертыкалі. Апошняе слова — за прэзідэнтам.

Не выключана, што ў найбліжэйшы час такім жа чынам будзе здабыты кантроль над шэрагам прадпрыемстваў. Упрыватнасці, на працягу 1,5—2 тыдняў можа быць прынята рашэнне аб перадачы 35% акцый холдынга "Абутак-Луч" (доля дзяржавы — 0,018%) у холдынг "Беларуская скурана-абутковая кампанія". На дадзены момант, па нашай інфармацыі, падрыхтаваны адпаведны праект указа. Гэта, бадай, другі па значнасці для дзяржавы актыў пасля кандытарскіх прадпрыемстваў. І пытанне кантролю над ім ставіцца ўжо на працягу года.



*Шакаладная "вайна" як індыкатар нашага грамадства*

### ПАКУЛЬ НЕ "ВЫСОЎВАЕЦЦА" ПРАДПРЫЕМСТВА

Тэарэтычна ў дзяржаўныя рукі можа перайсці таксама кантроль над іншымі прадпрыемствамі лёгкай прамысловасці. Фармальна пад крытэрыі нацыяналізацыі падпадае, напрыклад, фабрыка "Мілавіца", якая была прыватызавана ў тых жа 90-х. Адрозненне ад кандытарскіх фабрык у тым, што "Мілавіца" ўваходзіць у міжнародны холдынг SylvanoFashionGroup. І для таго каб атрымаць кантроль над ёй, неабходна пасварыцца з інвестарам.

Хаця, як паказаў досвед "Камунаркі" і "Спартака", на меркаванне інвестараў прэзідэнт асабліва не зважае. З іншага боку, пакуль прадпрыемства не "высоўваецца", усталёўваць кантроль над ім няма ніякага сэнсу.

Не выключана, што ўнайбліжэйшы час можна чакаць таксама выпадкаў кан'юнктурнай прыватызацыі кшталту набыцця "Крыніцы" Юрыем Чыжом. Гэткім чынам могуць быць перададзены для далейшага перапродажу і акцыі "Слодыча", "Чырвонага Мазыраніна" і іншых харчовых прадпрыемстваў. Такая "прыватызацыя" наўрад ці можа лічыцца лепшай за "народную нацыяналізацыю". Хіба што працэдура яе правядзення будзе больш цывілізаванай.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

# САМЫ ДАРАГІ СЕАНС ПСІХАТЭРАПІІ Ў ГІСТОРЫІ

Аляксандр Лукашэнка размаўляў з расійскімі журналістамі чатыры з паловай гадзіны. Як звычайна, гэта была размова пра ўсё і ні пра што.

## ТОЛЬКІ ТРЫ ПРАВЫ

Самыя сумныя пытанні тычыліся палітыкі, і нядзіўна. Лукашэнка ўвесь час паўтарае адно і тое ж. Беларусь гатова прыняць усе інтэграцыйныя ініцыятывы Расіі, але пасля таго, як у Крамлі адмовіліся ад ідэі Канстытуцыі Саюзнай дзяржавы, "адбыўся злом". Беларусь гатова сябраваць з усімі, бо тут разумеюць сваё месца ў навакольным свеце і "не пакутуюць ад глабалізму". І тым больш гатова сябраваць з Расіяй: палітычныя сістэмы дзвюх краін ідэнтычныя, толькі ў Беларусі "ўсё больш сумленна, адкрыта і больш жорстка".

Што ж тычыцца правоў чалавека, то з іх Лукашэнка прызнае толькі тры: права на жыццё, права на працу і права на годную зарплату. Усё астатняе — балаўство.

Адказваючы на пытанні эканамічнага характару, Лукашэнка ўвесь час звяртаецца за пацвярджэннем лічбаў да членаў урада. Лукашэнка любіць падкрэсліць: далі б нам, як Грэцыі, 100 мільярдаў еўра альбо было б у нас столькі газу, колькі ў Казахстане ці ў Расіі, то жыла б рэспубліка ў раі. Пусціце хоць пампаваць нафту ў Расійскую Федэрацыю — практычна ўпрошвае прэзідэнт прысутных, а то англічане ці амерыканцы пампуюць, а мы з Венесуэлы возім. Непарадак.

Тое ж тычыцца і прыватызацыі: "Аддамо нафтаперапрацоўчы завод, але вы дайце свідравіну", — прапаноўвае Лукашэнка. Праўда, у час прэсавай канферэнцыі сам сабе і адказвае: не будзе такога раўнапраўя, паколькі ў Расіі таксама "не дурні".




*Такім гуру піяра цяпер наш кіраўнік не выглядаў*

## РЫНАЧНУЮ ЭКАНОМІКУ "НАМ ПАДКІНУЛІ"

Рыначная эканоміка яго наогул насцярожвае. Па ўласным прызнанні Лукашэнкі, яго ўжо 20 гадоў мучыць "шалёная думка", што гэтую эканоміку "нам падкінулі", каб усё развалілася.

Калі на пытанні, звязаныя з палітыкай і эканомікай, Лукашэнка адказвае гранічна сабрана, то пры размове "аб розным" ён выглядае, хутчэй, расслабленым і нават лагодным.

"Аддайце нам Кубак Крамля, а то глядзіш — гэта ж ганьба, калі два чалавекі на трыбунах", — пра свае ўражанні ад прагляду па тэлевізары вядомага тэніснага турніру ў Маскве.

"Гэта ж трэба, абкакаўшыся, выйсці на поле", — пра вынік футбольнага матча Беларусь — Іспанія (0:4), квіткі на які распаўсюджвалі ў абавязковым парадку і ў выніку сабралі аншлаг на 40-тысячным стадыёне.

"Лепш яны будуць нейкую парнуху паказваць, чым навіны з Беларусі", — пра метады работы некаторых расійскіх СМІ.

"Калі я бяру на працу 45-гадовага, то ён павінен мецць лоб на сем пядзей, калі 30-гадовага — то толькі вундэркінда", — пра кадравую палітыку.

Сябе Лукашэнка спрабуе выставіць не асабліва багатым, але гордым чалавекам са сціплымі запытамі. Асабісты кіроўца, маўляў, угаварыў яго не ездзіць на падораным у Расіі "Майбахе", паколькі людзі такой раскошы не зразумеюць. Лукашэнка не лічыць сябе роўным Уладзіміру Леніну і Іосіфу Сталіну, яму да іх яшчэ "тупаць і тупаць". Гаворка ідзе, зразумела, не пра колькасць пралітай савецкімі правадырамі крыві, а пра тое, што задачы перад імі сталі нашмат больш маштабныя, а цяпер іх здзяйсненні ўсякія там "Іваны, якія не памятаюць каранёў" дэманізуюць. "Мяне таксама ганьбіць будуць", — усё ж не можа ўтрымацца ад параўнання Аляксандр Рыгоравіч.

Увогуле, усё як заўсёды. Беларускія журналісты маглі б спісаць тэкст папярэдняга выступу Лукашэнкі перад калегамі і крыху памяняць цытаты.

Аднак які палітычны, эканамічны, грамадскі эфект мела традыцыйная піяр-акцыя? Што Лукашэнка хацеў сказаць? Што ён сказаў? Якая мэта такой дарагой (калі падсумаваць усе выдаткі ад прыезду расійскіх журналістаў) акцыі?

## НЕ ТОЙ ЭФЕКТ, НА ЯКІ РАЗЛІЧВАЛІ

Рэкламіст **Юлія Ляшкевіч** не лічыць, што эфект ад гэтай акцыі будзе такім, як задумваўся. Зрэшты, яна не ўпэўнена, ці задумваўся гэты эфект наогул.

*— Такія мерапрыемствы, безумоўна, карысныя. Але яны павінны быць дарэчнымі, і іх правядзенне залежыць ад шэрагу фактараў. Напрыклад, калі патрэбна тэрміновая рэакцыя на падзеі. Яна была б дарэчная пасля падзей 19 снежня 2010 года, як рэакцыя на канфлікт з еўраамбасадарамі, на высылку паслоў, на нейкі канфлікт у беларуска-расійскіх адносінах. Цяпер у нас нічога такога няма, усё больш-менш спакойна. Таму прэс-канферэнцыя Лукашэнкі прыцягнула зусім не тую ўвагу, на якую, магчыма, разлічвалі яго піяршчыкі.*

На думку Юліі Ляшкевіч, такія рэчы маюць значны эфект тады, калі ёсць нейкі аналіз сітуацыі, калі грамадзяне не ведаюць, як рэагаваць на той ці іншы выклік, на тую ці іншую сітуацыю, калі ім трэба растлумачыць, што і як рабіць.

— Сёння такіх выклікаў няма, — кажа яна. — СМІ з прэс-канферэнцыі выбралі альбо самыя смешныя цытаты — наконт "Майбаха", хабару прэзідэнту, пераносу ў Беларусь Кубка Крамля і голых актывістак Femen, альбо самыя неадназначныя — пра Леніна і Сталіна, пра тое, што рыначныя рэформы нам "падкінулі", пра магчымасць перадачы нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў у абмен на магчымасць здабываць нафту ў Расіі. Гэтая прэс-канферэнцыя Лукашэнкі наўрад ці дасягне сваіх мэт у сітуацыі, калі, уласна кажучы, і мэт ніякіх няма. Праўда, ёсць і другі варыянт мэт такіх прэс-канферэнцый: часам яны праводзяцца проста для самазаспакаення, каб даказаць самому сабе, што ўсё добра, усё спакойна, да цябе прыязджаюць, пытаюцца, ты некаму патрэбен і гэтак далей.

## ЗАПЛАНАВАНАЯ МЭТА БЫЛА ДАСЯГНУТА

Кіраўнік аб'яднання "Інфармацыйныя і сацыяльныя інавацыі" палітолаг **Уладзімір Падгол** лічыць, што Лукашэнка ставіў перад сабой толькі адну мэту. І ён яе дасягнуў:

*— Наконт прэс-канферэнцыі варта адзначыць, што не Лукашэнка яе арганізаваў. Яе арганізоўвалі яго набліжаныя, і працавалі над прэсухай даўно. Аднак эканамічная і палітычная сітуацыя з тых часоў змянілася, і Лукашэнка дзейнічаў па абстаноўцы.*

*Што ж да самой прэс-канферэнцыі, то галоўны вынік для Лукашэнкі — гэта тое, што ён правёў з дапамогай расійскіх журналістаў для сябе самога сеанс масавай псіхатэрапіі, масавага самагіпнозу. Зараз яму проста неабходны такія сеансы, паколькі ён прайграе па ўсіх франтах.*

*Яму трэба ўмацаваацца ў складанай сістэме адносін, у выкліках якой ён прайграе. У краіне плаўная дэвальвацыя, ад Расіі ён не атрымаў таго, чаго хацеў: ні нафты, ні новых самалётаў на пераўзбраенне арміі. З Еўропай нічога новага. Зноў жа крызіс на носе, папулярнасць прэзідэнта падае.*

*Таму яму трэба было тэрмінова пераканаць самога сябе ў тым, што ён лепшы. Усе астатнія мэты, калі яны і існавалі, былі другаснымі.*

*Паглядзіце, як Лукашэнка ствараў вакол сябе віртуальную рэальнасць, свет, які падпарадкоўваецца толькі яму, у якім ён самы лепшы. Ён зноў стаў дэманізаваць БНФ, кажучы, што ўсё горшае звязана з ім, хоць менавіта БНФ варта паставіць у заслугу суверэнітэт і незалежнасць Беларусі. Ён рэанімаваў вобраз ворага ў асобе Расіі — маўляў, гэта яны не даюць Беларусі свідравіны, тармозяць працэс інтэграцыі, перашкаджаюць нармальна развівацца і дазволілі працэс "прыхватызацыі".*

*Але варта адзначыць і яшчэ адзін, новы для Лукашэнкі момант: ён упершыню заняў новую для сябе псіхалагічную нішу — традыцыйную для беларуса нішу партызана, які "схаваўся ў бульбу". Адчуваючы крах Еўразійскай эканамічнай супольнасці, ён ужо не бяжыць наперад з прапановамі. Ён аддаў яе на водкуп Назарбаеву і Пуціну. А калі гэты саюз праваліцца, Лукашэнка зноў знойдзе вінаватых — Пуціна і Назарбаева.*

Так што прэс-канферэнцыя Лукашэнкі стала, напэўна, самым дарагім сеансам псіхатэрапіі ў гісторыі. Трэба тэрмінова выклікаць сюды экспертаў Кнігі рэкордаў Гінеса.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**



*Прэсавая канферэнцыя не заўсёды дае плён яе арганізатарам*

# НАМЕР – ЦІСНУЦЬ НА ЎЛАДУ

**Пра такі намер было заяўлена ў Магілёве ад імя кампаніі і руху "Гавары праўду" падчас прэзентацыі пастаянна дзеючага офіса "Грамадзянскай дамовы".**

Нядаўняя магілёўская кандыдатка ў ніжнюю палату Нацыянальнага сходу Аксана Закрэўская, якая да канца прайшла ўвесь выбарчы шлях, набраўшы больш за 5 тысяч галасоў у сваёй 60-тысячнай акрузе, абвясціла тры асноўныя кірункі работы, да якой супрацоўнікі і валанцёры офіса прыступаюць неадкладна.

* Ціск на ўладу, на дэпутатаў, якім улада прыпаднесла дэпутацкія мандаты без абавязку з іх боку служыць людзям. Штодзённа нагадваць ім пра гэта — такую місію бярэ на сябе магілёўскі офіс грамадзянскай кампаніі.

* Стварэнне экспертнай групы спецыялістаў па самых розных пытаннях гарадскога жыцця з тым, каб круглыя сталы, дыспуты і дыскусіі, грамадскія абмеркаванні з іх удзелам давалі падставу для фармулявання гарадскім службам актуальных задач па запатрабаваннях жыхароў горада і метадах іх вырашэння.

* Работа непасрэдна сацыяльнага офіса, дзе юрысты і супрацоўнікі грамадскай установы будуць штодзень прымаць людзей з іх праблемамі і прапановамі, даваць парады, ініцыяваць іх захады з тым, каб па кожным пытанні даходзіць да лагічнага канца. Калі трэба — праз суд, навучаючы людзей карыстацца заканадаўствам і тымі правамі, што яшчэ некančаткова адабраны ў іх дзяржавай.

Журналісты звярнулі ўвагу на тое, што на імпрэзе прысутнічаў старшыня абласной арганізацыі БНФ Зміцер Салаўёў, які не толькі нешта занатоўваў у сваім нататніку, але і ўзяў слова, каб паведаміць, што франтаўская арганізацыя мае намер актыўна супрацоўнічаць з офісам і кампаніяй "Гавары праўду". Гэты момант цяжка абмінуць увагай на тле той крытыкі, што гучыць з боку радыкальна-апазіцыйных колаў на адрас абедзвюх арганізацый — БНФ і "Гавары праўду". Засталося, аднак, незразумела: ці магілёўская франтаўская ініцыятыва ёсць уласнай, ці гэта пазіцыя ўсяго БНФ. Час пакажа. Пакажа ён і тое, наколькі ўдалай акажацца стратэгія ціску на ўладу па пытаннях гарадскога жыцця (камунальныя праблемы, ахова здароўя, абарона сям'і і дзяцей, добраўпарадкаванне і самакіраванне).

Ужо хутка актывісты офіса пойдуць па кватэрах аднаго з мікрараёнаў са спісам членаў нібыта абранага тут доматаварыства як органа жыллёвага самакіравання, але пра які жыхары, насамрэч, не ведаюць, бо ніхто нікога тут не абіраў, ніякую работу таварыства не вядзе, хаця пратаколы пасяджэнняў існуюць… І такая практыка, як сведчаць многія наведвальнікі магілёўскага грамадскага сацыяльнага офіса, распаўсюджана ў горадзе. Паставіць на ёй крыж і аднавіць самакіраванне — вось з чаго вырашыў пачаць офіс "Грамадзянскай дамовы". Журналісты ў сваю чаргу заўважылі, што сваё стаўленне да офіса вызначаць у залежнасці ад вынікаў гэтай акцыі.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# $7-МІЛЬЯРДНЫ ЭКСПАРТ – ВЫДАТКІ Ў $10 МЛРД?

У апошні час высокапастаўленыя чыноўнікі агучылі нямала вельмі амбіцыйных планаў па сельскай гаспадарцы. Але наколькі ўсе яны рэальныя?

На гэтую тэму "Тут і цяпер" распытала лідара Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандра Ярашука**.



*Ураджай як самамэта – гэта не дасягненне*

## "ДА ГЭТАЙ ЛІЧБЫ ТРЭБА СТАВІЦЦА ЯК ДА СХАЛАСТЫКІ"

**— На "Дажынках" кіраўнік дзяржавы у чарговы раз запэўніў грамадскасць краіны: экспартны патэнцыял беларускага агракомплексу да канца 2015 года павінен скласці 7 мільярдаў долараў. Гэта многа ці мала?**

— Я лічу, што да гэтай лічбы трэба ставіцца як да схаластыкі. Яна нічога не азначае. І я баюся, што яе будуць забяспечваць, любой цаной нарошчваючы аб'ёмы вытворчасці. Пры гэтым ніхто не кажа, колькі сродкаў будзе ўкладзена. А гэта можа быць і 10 мільярдаў долараў! Эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці сёння з'яўляецца вялізнай праблемай, і гаворка ідзе пра тое, што нельга валюнтарысцкім чынам ставіць такія задачы.

**— Аляксандр Ільіч, калі слухаць афіцыйную прапаганду, то можна зрабіць безумоўную выснову, што сельская гаспадарка ў нас паспяхова развіваецца. А прыходзіш у краму і разумееш, што цэны на прадукты вышэйшыя, чым у суседніх краінах...**

— Калі гаворка ідзе пра сельскагаспадарчую вытворчасць, то дзейнасць гэтай галіны павінна быць эфектыўнай. Прыбытковасць, зноў жа, у канчатковым выніку азначае канкурэнтаздольнасць. І калі нешта робіцца, то выручка павінна пакрываць усе выдаткі. Нармальнае канкурэнтнае асяроддзе ўнутры краіны і канкурэнцыя са знешнімі вытворцамі з'яўляюцца магутным стымулам для зніжэння выдаткаў. Наша дзяржава паставіла заслону ад знешніх вытворцаў аналагічнай прадукцыі (польскіх, літоўскіх і іншых) у выглядзе мытных пошлін, і ў замежнікаў няма аніякай магчымасці прарвацца сюды, таму нашы вытворцы адчуваюць сябе вольна і не вельмі турбуюцца наконт зніжэння сабекошту сваёй прадукцыі.

> "Эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці сёння з'яўляецца вялізнай праблемай, і гаворка ідзе пра тое, што нельга валюнтарысцкім чынам ставіць такія задачы".

**— Але ўсё роўна ў нас прадаецца якая-небудзь бельгійская бульба або польскія яблыкі, якія каштуюць калі не менш, то прыкладна столькі ж, колькі і беларускія.**

— Так, парадокс у тым і заключаецца, што нават на фоне гэтых мытных пошлін наша сельская гаспадарка ў асобна ўзятых напрамках часам настолькі неэфектыўная, што палякі і галандцы, нават выплаціўшы мытныя пошліны, будуць прадаваць тут сваю прадукцыю танней, чым беларусы. Гэта значыць, мы падыходзім да самага галоўнага — да таго, што ў аснове любой вытворчасці павінен ляжаць эканамічны інтарэс вытворцы.

У Беларусі ў сельскую гаспадарку ўкладваецца вельмі шмат сродкаў. Між тым усе гэтыя выдаткі не акупляюцца, і ў выніку мы прыходзім у крамы і бачым: у нас мяса разы ў два даражэйшае, чым у Польшчы!

Чыноўнікі па-ранейшаму ўпарцяцца ў сваім нежаданні даваць людзям эканамічную свабоду, прызнаваць прыватную ўласнасць, у тым ліку і на зямлю. З аднаго боку, можам казаць пра тое, што ў асобна ўзятых агменях, якія называюцца аграгарадкамі, пэўны марафет наведзены, палі засеяны (што часта замілоўвае гасцей, якія не надта разбіраюцца ў прадмеце гутаркі), а з іншага, калі казаць пра наступствы, мы атрымліваем вельмі дарагую прадукцыю ў крамах, якая часта недаступная для шараговага пакупніка.

## "ТОЛЬКІ ЎЛАСНІК МОЖА ЭФЕКТЫЎНА КІРАВАЦЬ ЛЮБОЙ ВЫТВОРЧАСЦЮ"

**— Сёння шмат кажуць пра тое, што ў рамках Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы прыйдзецца істотна скарачаць прамыя датацыі АПК на адзінку вырабленай прадукцыі. Мы зможам зрабіць гэта?**

— На самай справе, цалкам відавочна, што нас чакаюць няпростыя часы. Сельская гаспадарка датуецца ва ўсіх краінах, і ў значна большых маштабах. Але там дапамагаюць фермеру, прыватніку, які валодае зямлёй. У нас жа ўсё наадварот.

Сельская гаспадарка — асаблівая катэгорыя эканамічнай вытворчасці. І, верагодна, яшчэ доўгія гады аграрнікі будуць атрымліваць падтрымку, але тэндэнцыя такая, што гэтая падтрымка паменшыцца ў памерах. І ў рамках АЭП да 2017 года павінны быць выраўнаваны ўмовы гаспа-

дарання для вытворцаў усіх трох дзяржаў – Беларусі, Расіі і Казахстана. І калі ў нас на сёння субсідыі з боку дзяржавы ў аграрны сектар складаюць 60 адсоткаў, то ў Расіі і Казахстане — каля 10. Значыць, усе краіны АЭП павінны выйсці на ўзровень 10 працэнтаў дзяржаўных субсідый. І можна толькі сабе ўявіць, наколькі гэта пагоршыць сітуацыю, таму што нам будзе складана канкурыраваць з іншымі вытворцамі, тым больш калі мець на ўвазе, што ў той жа Расіі і Казахстане сельская гаспадарка з пачатку 90-х гадоў з пераменным поспехам развіваецца ва ўмовах рынкавай эканомікі, канкурэнтнага асяроддзя і прыватнай уласнасці, у тым ліку і на зямлю.

**— Разам з тым, Аляксандр Лукашэнка не так даўно заўважыў, што «ў цэлым беларускія аграрыі дэманструюць нядрэнныя вынікі па многіх напрамках, у тым ліку па раслінаводстве і жывёлагадоўлі». Як вы ставіцеся да гэтых слоў?**

— Справа ў тым, што ў нас такая рыторыка ў ацэнцы сельскай гаспадаркі адзначаецца яшчэ з савецкіх часоў. Яна мае на ўвазе савецкія крытэрыі (гаворка ідзе аб валавых паказчыках). Калі звярнулі ўвагу, заўсёды гаворыцца пра тое, што мы вырабім мільёны тон чаго-небудзь, не задумваючыся, эфектыўна гэта ці не. Дзе дзейнічае сапраўдны эканамічны інтарэс, ніхто ніколі не аперыруе такімі паняццямі. Зразумела, што ўсе хочуць атрымліваць як мага больш ураджаю з аднаго гектара і малака ад адной каровы. Але, зноў жа, да вядомых межаў. Бывае і так, што пры 5 тысячах кілаграмаў удою малако больш прыбытковае, чым пры 10 тысячах. Але гэтыя рашэнні можа прымаць толькі гаспадарнік. У нас надоі зараз павышаюцца, але, на мой погляд, гэта адбываецца таму, што няма сапраўднага гаспадара. І ў выніку карова праз тры гады "выходзіць са строю". Любы заходні фермер пры такім гаспадаранні збанкрутуе, а ў нас гэтая з'ява стала ўжо даволі масавай, і я не бачу нейкіх змен у сітуацыі. Я перакананы, што толькі ўласнік можа эфектыўна кіраваць любой вытворчасцю.

**МАРЫНА МІТ**




*У нас сваё разуменне каштоўнасці экспарта і імпарта*

# БЕЛАРУСЫ Ў ЯКАСЦІ... РУСКІХ

**Праваабаронца і былы следчы пракуратуры Алег Воўчак ужо чатыры гады здымаецца ў кіно як акцёр масавых сцэн. Пра шчырыя слёзы акцёраў, ролю мары ды каштоўнасць беларускіх акцёраў на ўкраінскім рынку кінематографа Алег распавёў для "Тут і цяпер".**




*Беларусаў рускія часта ўспрымаюць лубачна*

## ПАМІЖ ЛІЦАДЗЕЕМ І ПРАКУРОРАМ

Гісторыя з кіно пачалася многа год таму: падчас службы ў войску Алег, як актыўны камсамолец, ладзіў розныя вечарыны, навагоднія святы, пісаў сатырычныя сцэнары для самадзейных пастановак. Пасля арміі паўстала пытанне "кім быць?". Душа Воўчака вагалася паміж акцёрствам і "нармальнай мужчынскай прафесіяй": хацелася і ў ліцадзеі, і ў пракуроры. Перамагло апошняе, і Алег паступіў на юрфак.

Пасля вайсковага, юрыдычнага ды праваабарончага досведу ногі прывялі абаяльнага Алега да студыі "Беларусьфільм", дзе ён запісаўся ў акцёры масавых сцэн. За чатыры гады Алег Воўчак зняўся больш чым у сарака фільмах, але, па яго словах, найбольш яскравымі былі 10—15 карцін ды шэсць эпізадычных роляў.

— Я не толькі іграю нейкую ролю, але маю магчымасць кантактаваць з творчымі людзьмі, маю стымул да вывучэння гісторыі. Ды і чаго хаваць — такая праца дазваляе пераключыцца з праваабарончай дзейнасці, атрымаць іншыя эмоцыі, — знаходзіць абгрунтаванне свайму захапленню праваабаронца.

## МІНУЛАЕ НЕ АДПУСКАЕ

Відаць, па прычыне прафесійнай біяграфіі Алега Воўчака часцей бяруць здымацца ў ролі вайскоўцаў, афіцэраў. Было некалькі роляў бандытаў, аператыўнікаў, іграў ролю фізрука, доктара, кантрабандыста, каханка...

Кажуць, што дзяўчаты звычайна мараць сыграць Джульету, а вось Воўчак хацеў бы сыграць ролю прафесійнага, абаяльнага, закаханага, чуллівага пракурора: "Прэстыж гэтай прафесіі надта знізіўся, таму добра было б зняць фільм з такім персанажам".

— Каго не хацеў іграць, дык гэта фашыстаў. Аднойчы давялося іграць завадатара бандытаў — таксама не надта прыемна было. А вось роля кантрабандыста Сяргея Пясецкага была цікавай, працаваў з задавальненнем, бо гэта рознабаковая, неардынарная асоба, — распавядае Алег.

## ШТО ДАЕ ВЫЖЫЦЬ "БЕЛАРУСЬФІЛЬМУ"

Алег адзначае, што беларускія акцёры масавых сцэн у расійскай кінаіндустрыі лічацца прафесійнымі (асноўныя працадаўцы для акцёраў, канечне, расіяне).

— У мяне ўжо ёсць знаёмыя сцэнарысты, — асцярожна хваліцца Алег. — Ведаеце, сярод акцёраў масавых сцэн беларуская масоўка добра вядомая. Прыкладна сорак чалавек рэгулярна запрашаюць здымацца ў расійскія, украінскія стужкі. І я сярод іх. Вось нядаўна праходзіў кастынг на ролі гусараў. Многія думаюць, што наша праца — гэта забаўка. Але насамрэч акцёры масавых сцэн працуюць пасапраўднаму. Чаму да нас едуць расіяне? Бо наша масоўка ўмее іграць ролі, умее падыграць асноўным акцёрам. Аператар, перш чым выставіць сцэну, атрымлівае фотаздымкі акцёраў масоўкі і з іх выбірае, каго паставіць побач з вядучым акцёрам, каб людзі гарманічна глядзеліся ў кадры. Цяпер, калі я гляджу кіно, то звяртаю ўвагу на тое, як арганізавана масоўка, і бачу, калі людзі не вельмі ўдала паводзяць сябе ў кадры.

*Заканчэнне на стар. 8*

# БЕЛАРУСЫ Ў ЯКАСЦІ... РУСКІХ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 7*



*А беларускае кіно перажывае не лепшыя часы*

Праваабаронца і акцёр масавых сцэн па сумяшчальніцтве распавядае пра серыяльныя ганарары і падкрэслівае, што “расійскае кіно сёння дазваляе выжыць і “Беларусьфільму”, і беларускім акцёрам”. За адказнасць да справы ды неразбэшчанасць, паводле яго ацэнак, сёння для масавых сцэн і на вядучыя ролі ў серыялах бяруць ледзь ці не 90% беларускіх акцёраў. Па беларускіх мерках, заробак у акцёраў атрымліваецца неблагі.

## НЕ БОГІ Ў КІНО ЗДЫМАЮЦЦА

— Мяне ўразіла сустрэча з Фёдарам Бандарчуком. Я думаў, што ён сапсаваны славай, фанабэрысты. Калі Бандарчук быў тут на здымках, я падышоў да яго, пагаварыў пра фільм “9 рота”, выказаў падзяку, бо я быў у Афганістане і ў гэтай стужцы ўсё праўда. Бандарчук абсалютна нармальна паставіўся да мяне. Гэта прыемна. Вельмі падкупляе шчырасць, калі бачна, што чалавек радуецца, пазітыўна ўспрымае станоўчы водгук. Сяргей Макавецкі вельмі далікатны, мяккі чалавек. Ніна Усатава якая на экране, такая і ў жыцці. Мой асабісты досвед паказвае, што нават вядомыя акцёры — нармальныя людзі, без лішняга гонару і пыхі.

Цяпер Алег здымаецца ў 12-серыйным кінапраекце пра Васіля Сталіна "Сын бацькі народаў" па сцэнарыі расійскага драматурга Эдуарда Валадарскага. У фільме ён іграе ролю афіцэра з блізкага акружэння, то бок часта з’яўляецца побач з Васілём Сталіным у кадры. Воўчак вельмі эмацыянальна распавядае пра гэтую стужку, пра тое, як перачытаў матэрыялы пра трагічнае жыццё сына правадыра народаў і колькі новага для сябе адкрыў.

— Некаторыя рэчы ўбачыў у новым ракурсе, — дзеліцца перажываннямі Воўчак. — Напрыклад, што такое сям’я, ці нясуць дзеці адказнасць за бацьку, што бацька мусіць думаць пра будучыню сваіх дзяцей пасля сваёй смерці. Нават для акцёра масоўкі важна зразумець, якую атмасферу ён павінен перадаваць. Менавіта праз кіно я многа для сябе адкрыў.

Распавядае пра сваё захапленне маладым акцёрам Гела Месхі (ён акурат і іграе Васіля Сталіна), пра шчырасць пачуццяў на здымачнай пляцоўцы: “аднойчы на здымках Марына Аляксандрава спявала песню пра вайскоўцаў, і гэта выклікала слёзы — нават не трэба было карыстацца адмысловымі сродкамі, так натуральна ўсё атрымалася”. І пра расчараванні акцёрскай прафесіі: “калі здымаецца многа эпізодаў, але ў фінальны варыянт уваходзіць далёка не ўсё”.

Прашу Алега сыграць мізансцэну ў ролі афіцэра. Усмешлівы праваабаронца праз хвіліну змяняе паставу, погляд, тэмбр голасу і тэмп маўлення. Далібог, мурашкі па скуры ад адчуванняў, што перад табой іншы чалавек!

## НЕ ПАЙДУ Я Ў ПРАКУРОРЫ

Калі слухаеш аповеды Воўчака пра здымкі ў кіно, то ў які раз пераконваешся, што мары мусяць здзяйсняцца — тады чалавек будзе шчаслівым, вочы яго будуць ззяць ад прагі да жыцця.

Алег гаворыць, што ёсць выпадкі, калі акцёры масоўкі пачынаюць выконваць паўнавартасныя ролі. Як ёсць здольнасці і тваё імя заўважылі, то можна скончыць акцёрскія курсы і адбыцца ў прафесіі. Некаторыя пераязджаюць у Расію, ва Украіну. Цікава, што беларусы на ўкраінскім кінарынку запатрабаваны асабліва тады, калі трэба сыграць расіяніна ды больш-менш чыста па-руску сказаць (многія ўкраінцы не могуць справіцца з акцэнтам).

— Эх, хто ведае, мо як усталюецца ў Беларусі дэмакратыя, то не пайду я ў пракуроры, а пайду ў акцёры, — усміхаецца Алег, разважаючы пра сваю будучыню. — Хаця за час акцёрства я зразумеў, што ў нас няма спецыялістаў, якія працуюць у галіне аўтарскага праваў, абароне інтэлектуальнай уласнасці. Таму, магчыма, змяню спецыялізацыю і ў гэтым кірунку.

**ВОЛЬГА ХВОІН**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 18.10.12
Тыраж 299 экзэмпляраў